№ 12(157)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Верасень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Інфляцыя ў Беларусі ад пачатку года склала 8,2%**

У жніўні індэкс спажывецкіх коштаў на тавары і паслугі ў параўнанні з ліпенем вырас на 0,1%, а ў параўнанні са снежнем 2012 года — на 8,2%, паведамляе БелаПАН са спасылкай на Нацыянальны статыстычны камітэт.

Нагадаем, што афіцыйны прагноз інфляцыі на 2013 год складае 12%.

### У Прыдняпроўі

**По информации областной ассоциации производителей плодоовощной продукции, в сельхозорганизациях Могилевщины в этом году планируется собрать не менее 45 тысяч тонн овощей.**

Предполагается, что свыше 10 тысяч тонн томатов и огурцов будет получено в тепличных хозяйствах региона. Картофеля планируется накопать около 180 тысяч тонн при средней урожайности 250-260 центнеров с гектара.

Сохранность картофеля и плодоовощной продукции на межсезонный период обеспечат хранилища, которые рассчитаны на 120 тысяч тонн картошки, 21 тысячу тонн овощей и 23 тысячи тонн плодов.

### У раёне

**Па інфармацыі раённага аддзела ЗАГС, за 8 месяцаў бягучага года ў Бялыніцкім раёне нарадзіліся 172 дзіцяці. За аналагічны перыяд мінулага года на свет з'явілася 166 дзяцей.**

Сёлета ў студзені-жніўні ў раёне вузамі Гіменея сябе звязалі 122 пары, летась за такі ж прамежак часу зарэгістраваны 91 шлюб. Сёлета скасавана 40 шлюбаў, у мінулым годзе – 67.

За 8 месяцаў 2013 года з жыцця пайшлі 316 чалавек. За адпаведны перыяд леташняга года памёр 301 жыхар Бялыніччыны.

Бялыніччына па-ранейшаму патроху вымірае...

# ЗА СЛАБУЮ, “ЗАЧУХАНУЮ” БЕЛАРУСЬ?

***Амаль тры гады таму перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года нашы слаўныя чыноўнікі паўсюдна, да месца і не вельмі, заклікалі галасаваць за “моцную, квітнеючую Беларусь”. Зараз гэты лозунг нічога, акрамя смеху, не выклікае не толькі ў простых грамадзян, а нават у саміх чыноўнікаў сярэдняга звяна.***




Здарылася так, што, пасля амаль дваццацігадовага перыяду кіравання нашага любімага правадыра і яго верных паплечнікаў, паслухмяных і “чэсных” беларускіх чыноўнікаў, наша краіна вымушана зноў літаральна выжываць. Толькі перажылі наступствы эканамічнага абвалу 2011 года, як наперадзе замаячыў чарговы “пісец без варыянтаў”…

Любімы кіраўнік галёкае па замежжу, выпрошваючы чарговы крэдыт на “падтрымку беларускай эканомікі”, аднак грошы ужо ніхто даваць не хоча, бо набралі пазык “вышэй даху”.

Бюджэт трашчыць па ўсіх швах, таму ў прамежках паміж выпрошваннем крэдытаў Аляксандр Рыгоравіч і яго верныя паплечнікі думаюць над тым, як яшчэ “параўнальна сумленнымі метадамі” адабраць грошы ва ўласнага народа. Чаго варта толькі новая ініцыятыва – браць грошы з грамадзян за выезд за мяжу “квітнеючай Беларусі” у памеры 100 долараў ЗША. На іх думку, яно і правільна, навошта простым беларусам за мяжу ездзіць, няхай жывуць у “квітнеючай Беларусі” і глядзяць па нашаму самаму аб'ектыўнаму ў свеце тэлебачанню, як у замежжы людзі ў галечы мучаюцца. Самі ведалі, за каго галасавалі…

Праўда, дзеткі і ўнукі нашых патрыётаў-чыноўнікаў, чамусьці спрэч жывуць і навучаюцца ў “праклятых буржуінаў”, аднак ім гэта можна, яны ж не простыя беларусы. Магчыма, мазахісты нейкія, бо жыццю на квітнеючай радзіме аддаюць перавагу розным “загніваючым” Прагам ды Берлінам. Ды і самі нашы слаўныя чыноўнікі штосьці не жадаюць ездзіць на гонары айчынна-кітайска-іранскага аўтапрома, а спрэч

*(Працяг на стар. 4)*

# ХЛОПЕЦ З МАШЧАНІЦЫ НЕ ЛЮБІЦЬ РОДНУЮ МОВУ?

***На чэмпіянаце Беларусі па хакеі забаранілі пісаць па-беларуску. Адпаведны дакумент падпісаў ураджэнец вёскі Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна, першы намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Аляксандр Гагіеў.***

На форме ўдзельнікаў чэмпіянату Беларусі па хакеі прозвішчы гульцоў можна пісаць толькі на расейскай мове. Пра гэта абвяшчае артыкул 67 Рэгламенту аб правядзенні 22-га Адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі з шайбаю ў сезоне 2013–2014.

Пад гэтым дакументам, датаваным 27 чэрвеня 2013 года, стаяць подпісы старшыні асацыяцыі Федэрацыя хакею Рэспублікі Беларусь Яўгена Ворсіна і першага намесніка міністра спорту і турызму Беларусі Аляксандра Гагіева.

Сярод іншага, у 67-м артыкуле дакументу сказана, што на гульнявым швэдры прозвішча хакеіста мусіць быць напісанае выключна на расейскай мове.

Па каментар “Белсат” звярнуўся ў Федэрацыю хакею Рэспублікі Беларусь. Менеджар федэрацыі Арсеній Якавенка заявіў: “Калі ў рэгламенце прапісана, што прозвішчы трэба пісаць на расейскай мове, значыць, трэба пісаць на расейскай. Рэглpoints трэба выконваць. Больш вам на




гэтую тэму нічога сказаць не магу”.

Нагадаем, што Аляксандр Славіевіч Гагіеў з’яўляецца ўраджэнцам вёскі Вялікая Машчаніца, у свой час ён навучаўся ў беларускамоўнай Машчаніцкай сярэдняй школе. У Машчаніцы да гэтага часу жывуць яго бабуля і родны дзядзька, сам Аляксандр Гагіеў на выходныя рэгулярна прыязджае адпачыць у бацькоўскую хату.

Што ж, мне асабіста сорамна за свайго зямляка і нашых педагогаў, які вучылі яго любіць родную Беларусь і яе мову. На жаль, не навучылі…

***Іван Барысаў***

## МОГИЛЕВСКОГО СУДЬЮ ЗАДЕРЖАЛИ ЗА СЕКС НА РАБОЧЕМ МЕСТЕ И ВЗЯТКИ

Не зная того, что в его кабинете по инициативе сотрудников КГБ установлено видеонаблюдение и что он находится в «разработке», заместитель председателя суда Октябрьского района Могилева Магомед Умаров предавался сексуальным утехам прямо на рабочем столе.

Об этом сообщил «Нашему Могилеву» источник, близкий к материалам расследования.

Магомед Умаров был арестован еще в конце июня. Но лишь сейчас стали известные некоторые подробности его дело.

Всего сексуальных контактов в кабинете судьи было зафиксировано три. Среди тех, кто был не равнодушен к любвеобильному чиновнику, была и одна сотрудница суда, которая попала в объектив видеокамеры.

После того, как стали известны пикантные подробности рабочих будней судьи, всех сотрудниц суда заставили писать объяснительные записки — в каких отношениях они находились с арестованным Умаровым.

Тем временем камеры видеонаблюдения зафиксировали три эпизода получения взяток упомянутым судьей. Во время последнего он и был задержан в своем кабинете. Взятку в размере $ 2700 Умаров получил от адвоката Анатолия Гоманова.

С момента своего задержания в июне судья находится за решеткой.

## У БЯЛЫНІЧАХ ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ СУПРАЦЬ РАЗМЯШЧЭННЯ ЗАМЕЖНЫХ ВАЙСКОВЫХ БАЗ

***Бялыніцкі райвыканкам адмовіў мясцовым прадстаўнікам Партыі БНФ у правядзенні 8 верасня пікету супраць размяшчэння замежных вайсковых баз на тэрыторыі нашай краіны.***

Падставай для адмовы паслужыла тое , што менавіта 8-га верасня з 8-00 да 14-00 на пляцоўцы перад будынкам раённага Цэнтра культуры адбудзецца традыцыйны восеньскі кірамаш па продажы сельскагаспадарчай прадукцыі.

Адпаведны адказ за подпісам старшыні Бялыніцкага райвыканкама Аляксандра Вароніна 5 верасня атрымаў сябар Сойма Партыі БНФ з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч.

“Лічу, што падстава для адмовы ў правядзенні пікету абсалютна надуманая, - выказвае меркаванне Барыс Вырвіч. – Калі пляцоўка перад Цэнтрам культуры знянацку апынулася сапраўды занятая, райвыканкам мог бы прапанаваць правесці пікет у нейкім іншым месцы. На маю думку, бялыніцкія чыноўнікі проста не ведалі, як абгрунтаваць адмову ў правядзенні пікетавання, бо заяўка была пададзеная ў строгай адпаведнасці з законам”.

Нагадаем, што заяўку на правядзенне пікету супраць размяшчэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь замежных вайсковых баз і вайсковых аб’ектаў бялыніцкія актывісты Партыі БНФ падалі ў мясцовы райвыканкам 19 жніўня. Сябры ПБНФ прасілі райвыканкам дазволіць правесці пікет 8 верасня, з 11-00 да 12-00, на пляцоўцы перад раённым Цэнтрам культуры ў гарадскім пасёлку Бялынічы. Меркавалася, што ў пікетаванні будуць удзельнічаць пяць чалавек.

***Сяргей Семяновіч***

# ЗАПАВЕДНІК КАРУПЦЫІ

***Доўгія 19 гадоў Лукашэнка не можа перамагчы карупцыю на малой радзіме – у Шклоўскім раёне. Ці здольны гэты чалавек перамагчы карупцыю ў краіне?***

- На пасадзе кіраўніка Шклоўскага райаб'яднання ЖКГ я адпрацаваў з кастрычніка 1995 па лістапад 2001 год.

За шэсць гадоў я перажыў двое "Дажынак". У 1999 годзе Лукашэнка адмяніў "Дажынкі" ў нацыянальным маштабе, на свята нез'явіўся і сам; а ў 2000 годзе Шклоў пагуляў на славу. На плечы раённай ЖКГ разам з УКБ (УКС) лягла падрыхтоўка Шклова да "Дажынак"; мы адказвалі за 300 абектаў будаўніцтва, рамонту...

Наступны 2001 год – год прэзідэнцкіх выбараў. Я, кіраўнік Шклоўскай раённай арганізацыі ЖКГ і адлначасова сябра Сойма Партыі БНФ, актыўна ўдзельнічаў у кампаніі. Спачатку працаваў у камандзе Домаша, а пасля вызначэння адзінага кандыдата ад апазіцыі, перайшоў у штаб Уладзіміра Ганчарыка. Яшчэ напачатку прэзідэнцкай кампаніі сябры папярэдзілі, што па вертыкалі спушчаны загад – звальняць з працы ўсіх, хто працуе ў дзяржаўныхз установах, але не падтрымлівае Лукашэнка.

Што праўда, напачатку вялікага ціску я не адчуў. Але затым – пайшла гуляць губерня. Дзён за 10 да дня галасавання ў Шклоў прыязджала кіраўнік справамі прэзідэнта Галіна Жураўкова – на разборкі са мной. Умяне адбылася з ёй сур'ёзная размова, я ведаў пра крымінальныя грахі, нажытыя на працы ў Чавусах перад самым распадам Савецкага Саюза. Пасля ейнага візіту стала відавочна, што мяне наперадзе чакаюць сур'ёзныя разборкі.

Адразу пасля выбараў наезды і пачаліся. Месяцы са два цягнуліся масавыя праверкі, адкрыта шукалі на мяне кампрамат. А дзесьці ў сярэдзіне лістапада 2001 года старшыня Шклоўскага райвыканкама Агееў і ягоны намеснік Семянкевіч ужо адкрыта сказалі, што ўсё роўна не дадуць працаваць. Разумеючы тупіковасць сітуацыі, я напісаў заяву на звальненне.

Звольніўся ў сярэдзіне лістапада 2001 года. За наступныя 11 гадоў пасля майго сыходу з пасады чацвёра кіраўнікоў раённай ЖКГ апынуліся пад крымінальным пераследам.




Адразу за мной на пасаду кіраўніка Жылкамгаса (новая назва структуры пры Шклоўскім райвыканкаме) заступіў Алейнічаў. У 2003 ці 2004 годзе супраць яго і яшчэ пяцярых спецыялістаў узбудзілі крымінальную справу. У 2004 годзе хацелі і мяне ўцягнуць у гэтыя разборкі. Запрасілі ў Магілёўскае абласное ўпраўленне міліцыі, а я па дурасці і пайшоў без павесткі. Нікога, нават сваіх сяброў, не папярэдзіў. А там мне падсунулі тэчку з дакументамі , якія нібыта сведчылі супраць мяне. На першых жа лістах я заўважыў, што подпісы на паперах былі не мае, пра што і "паведаміў" міліцыянтам. Пасля гэтага са мной пачалі размаўляць "без пратакола"…

Мяне адпусцілі, бо не было чаго прад'явіць.

Па той справе за краты кінулі шасцярых. Прынамсі, дырэктар Шклоўскага ЖКГ Аляксандр Алейнічаў атрымаў сем гадоў пазбаўлення волі, галоўны інжынер Мікалай Федарышкін — чатыры, галоўны бухгалтар Алена Цодава — пяць, майстар Лалаеў — шэсць. Суд прызнаў, што яны дзейнічалі супольна і пад дахам райвыканкама стварылі арганізаваную злачынную групоўку.

Новым дырэктарам Жылкамгаса прызначылі Магерава - былога супрацоўніка міліцыі; праз год таксама трапіў пад крымінальную справу и нават частку тэрміну адседзеў.

Наступным дырэктарам Шклоўскай ЖКГ прызначылі Канцавога. Яго адхілілі ад пасады за злоўжыванні, але справу ўжо не заводзілі.

Затым на пасаду дырэктара ЖКГ паставілі Ігнатовіча. І зараз ужо чацвёрты дырэктар УКП «Жылкамгас» Рыгор Ігнатовіч знаходзіцца пад следствам: яго то арыштуюць, то адпусцяць. Зараз Рыгор Ігнатовіч знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, суд наперадзе.

За 11 год пасля мяне чатыры кіраўнікі Шклоўскага ЖКГ адхілены ад пасады за злоўжыванні. Двое ўжо адседзелі пэўныя тэрміны, адзін - пад следствам.

За гэты час пабылі старшынёй райвыканкама Агееў Аляксандр

*(Заканчэнне на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЗА СЛАБУЮ, “ЗАЧУХАНУЮ” БЕЛАРУСЬ?

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

выбіраюць буржуінскі аўтатранспарт для службовага і ўласнага карыстання. Апранутыя яны таксама не ў вырабы фабрыкі “Славянка”…

А чаго вартая ініцыятыва доктара эканамічных навук, старшыні Саўміна Міхаіла Мясніковіча – браць падаткі з беспрацоўных. Ды за гэта яму нобелеўскую прэмію даць патрэбна, бо да гэтага “ноў-хаў” дадумаліс пакуль толькі ў адной краіне свету – “квітнеючай” Беларусі. Сволачы-буржуіны паўсюдна беспрацоўным дапамогі выплачваюць, прычым памер іх часцяком перавышае сярэдні беларускі заробак, ну а ў “сацыяльна арыентаванай” Беларусі з іх будуць браць падаткі. Раю нашым слаўным чыноўнікам разгледзіць варыянт увядзення падатку на паветра, тым больш, што прэцэндэнт ёсць – адпаведны падатак уводзіў прынц Лімон у казцы “Чыпаліна”. Чаму б не выкарыстаць добры вопыт для папаўнення бюджэту, калі за дваццаць год пры ўладзе нейкім разумным дзеяннем не навучыліся…

Нічога, акрамя ўсмешкі, не выклікае ў мяне зараз, пасля прыняцця рашэння аб размяшчэння ў Лідзе расійскай авіябазы, выраз пра “моцную Беларусь”. Хочацца запытацца ў слаўных нашых кіраўнікоў: хлопцы, вы да чаго давялі краіну за дваццаць гадоў свайго “умелага” кіравання, калі замежныя войскі на яе тэрыторыі дазваляце размяшчаць? І гэта пры тым, што ў Канстытуцыі краіны ясна сказана пра імкненне да нейтралітэту? Слаўныя вы нашы, калі будзеце чарговыя выбары праводзіць, выкарыстоўвайце лозунг “За слабую, “зачуханую” Беларусь!”, бо менавіта такой яна выглядае пасля вашых рашэнняў у вачах суседзяў і сваіх жа грамадзянаў.

Калі прадстаўнікі беларускіх уладаў у чымсьці са мной не згодны, няхай патлумачаць, шаноўныя чытачы, як гэта можна было дваццаць год так кіраваць, каб ператварыць наймацнейшую на постсавецкай прасторы армію (а менавіта такой лічылась беларуская армія ў аглядах замежных аналітыкаў у 1994 годзе) у нешта незразумелае, так што нам спатрэбілась размяшчаць у Беларусі расійскую авіябазу!?




Каго і ад чаго будзе абараняць расійская авіябаза, тое яшчэ пытанне, бо на прыкладзе “Беларуськалія” шаноўныя чытачы маглі пераканацца, як нас любяць нашы “браты” з Расіі. Дарэчы,каб чытачам стала крыху больш зразумела, якія наступствы могуць быць у выпадку размяшчэння замежнай авіябазы на тэрыторыі нашай краіны, нагадаю, што пасля арышту вялікага сябра беларускага народу Баумгертнера адна з слаўных асноўных расійскіх газет, выказала меркаванне, што ў выпадку чаго-небудзь расійскія танкі будуць у Мінску за 10-12 гадзін. Іншы брацкі расійскі палітык прапанаваў высадзіць спецназ “Альфа” для захопу турмы КДБ у Мінску, дзе утрымліваецца Баумгертнер. Адкажыце мне, паважаныя чытачы, чые загады будуць выконваць расійскія лётчыкі на авіябазе ў Лідзе, і каго яны паляцяць бамбіць, калі ўзнікнуць адпаведныя абставіны? Няўжо нашы мудрыя кіраўнікі гэтага не разумеюць? Ці яны не разумеюць таго, што Расія –гэта капіталістычная краіна, дзе фактычна правяць прадстаўнікі алігархічнага капіталу? Калі не разумеюць, то няхай запытаюцца ў сотняў тысяч беларусаў, якія зарабляюць грошы на жыццё для сябе і сваіх сем’яў у Расіі, і якіх чыноўнікі, дарэчы, збіраюцца абкласці чарговым падаткам. Хаця паехалі яны ў тую ж Расію на заробкі не ад вялікага шчасця, а з-за таго, што за дваццаць гадоў кіравання гэтыя ж чыноўнікі не здолелі стварыць працоўныя месцы з годнай зарплатай у Беларусі.

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## ЗАПАВЕДНІК КАРУПЦЫІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

Міхайлавіч (гаворка не пра дэпутата Палаты прадстаўнікоў Агеева, былога старшыню Бялыніцкага райвыканкама) , Іваноў Валерый Мікалаевіч - былы кіраўнік Беларускай калійнай кампаніі, цяпер намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі. Зараз Шклоўскі райвыканкам узначальвае Аляксандр Анатольевіч Бойка. А намеснікам старшыні райвыканкама пры ўсіх старшынях застаецца нязменны Семянкевіч Яўген Віктаравіч, які курыруе камунальную службу.

11 гадоў ураджэнец Шклоўшчыны Аляксандр Лукашэнка не можа выкарчаваць карупцыю на сваёй малой радзіме. Гаворка ідзе не толькі пра ЖКГ – аналагічная сітуацыя назіраецца і ў іншых сферах жыцця. На Шклоўшчыне жывуць 33 тысячы чалавек, у Беларусі – 9,5 мільёнаў.

Дык ці здольны Лукашэнка справіцца з карупцыяй у краіне?..

***Рыгор КАСТУСЁЎ, намеснік старшыні Партыі БНФ***

# ЗА СЛАБУЮ, “ЗАЧУХАНУЮ” БЕЛАРУСЬ?

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1, 4)*

Паверце мне на слова, выдатна разумеюць. Проста “дакіравалісь” да таго, што грошы ў крэдыт расіяне могуць даць ужо толькі праз размяшчэнне замежных войскаў на нашай тэрыторыі. А грошы ўладам зараз патрэбны, каб неяк пратрымаць адпаведны ўзровень жыцця ў Беларусі да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. А пасля – хоць трава не расці, пра будучыню роднай краіны нашы слугі не задумваюцца. Абы застацца ля “кармушкі” і працягваць кіраваць…

Мне асабіста цікава, каго зараз улады будуць абвінавачваць у чарговых праблемах беларускай эканомікі? Раней такім “ахвярным казлом” традыцыйна былі прадстаўнікі апазіцыйных партый, якія чамусьці пастаянна перашкаджалі нашым “слугам народа” пабудаваць квітнеючую краіну. Праўда, як жа яны маглі перашкаджаць, не маючы ва ўладных структурах ніякага прадстаўніцтва, заставалася абсалютна незразумелым. Зараз жа на шляху будаўніцтва светлай будучыні, здаецца, ужо не засталося ніякіх перашкод. Апазіцыя дыхае на ладан (нагадаю, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года ў Беларусі ўсталявалі сусветны рэкорд, кінуўшы за краты большую частку кандыдатаў), у турму ніхто не хоча, бо пасля папярэдніх выбараў яшчэ не ўсе кандыдаты з-за кратаў выйшлі. Пазняк састарыўся ў замежжы, Партыяй БНФ ужо даволі даўно кіруе трыццаці пяцігадовы Аляксей Янукевіч, які ўжо дакладна не мог перашкодзіць Аляксандру Рыгоравічу і яго камандзе пабудаваць за дваццаць гадоў нешта стабільнае.

Аднак не сумняваюся, што чыноўнікі ад ідэалогіі абавязкова нешта прыдумаюць, што-што, а ворагаў і вінаватых знаходзіць яны навучыліся. Дарэчы, як і рабіць прыгожыя справаздачы, і вінаваціць неразумны беларускі народ у розных праблемах. У нас наогул унікальная краіна – народ і апазіцыя дрэнныя, а ўсё кіраўніцтва і чыноўнікі - добрыя. Гэта не я кажу, паважаныя чытачы, пра гэта пастаянна распавядаюць на дзяржаўных тэле- і радыёканалах нашы мудрыя кіраўнікі.




На маю думку, усё нашмат прасцей. Прагрэс існуе толькі ў тым выпадку, калі адбываюцца нейкія змены, у іншым выпадку наступае застой. І, калі гэтыя змены не адбываюцца, пасля застою абавязкова наступае абвал – той самы “пісец без варыянтаў”, колькі б хтосьці перад гэтым не распавядаў казкі пра “моцную, квітнеючую Беларусь”. А зменаў у нашай краіне пакуль не чакаецца, таму чыноўнікам сапраўды ўжо патрэбна задумацца над тым, каб змяніць лозунг.

Думаю, пасля размяшчэння расійскай ваеннай базы у нашай краіне ім больш падойдзе лозунг “За слабую, “зачуханую” Беларусь”…

***Іван Барысаў***

## МАДЭРНІЗАЦЫЯ ПРАЗ ЭКАНОМІЮ ПАЛІВА. НА ПАПЕРЫ

***Нарэшце ў Камітэце дзяржаўнага кантролю Беларусі ці то па сваёй ініцыятыве, ці то па ўказанні зверху сфармавалася хаця бы элементарнае разуменне, што эфектыўнасць выкарыстання фінансавых сродкаў, накіроўваемых на энэргазберагаючыя мерапрыемствы, у нашай краіне набліжаецца да нуля.***

Ад 2011 года з розных крыніц, у тым ліку і з дзяржаўнага бюджэту, на фінансаванне мерапрыемстваў па энэргазберажэнню накіравана каля 23 трлн. рублёў.

“Проводя модернизацию экономики, в первую очередь необходимо обеспечить бережное и рациональное использование всех ресурсов - материальных, финансовых, трудовых… Вопросы бережливости касаются всех отраслей народного хозяйства. Очень важной является экономия валютных средств. Больше всего валюты тратится на приобретение энергоресурсов - в среднем $18 млрд в год, или 40% от всего объема импорта… Направляя огромные средства на энергосбережение, страна вправе рассчитывать на адекватный результат от их использования в виде экономии топлива”. Такую заяву зрабіў старшыня КДК А.Якабсон на паседжанні Калегіі КДК 14 жніўня 2013 года.

Па выніках праверак Камітэтам дзяржкантролю 40% энэргаўстановак у сістэме ЖКГ было выяўлена, што заяўленая ў справаздачах эканомія паліва ў большасці выпадкаў аказалася толькі на паперы. Дадзеная сітуацыя склалася па прычыне “недапрацовак”, як выказаўся Якабсон, Міністэрства ЖКГ, Дэпартамента па энэргаэфектыўнасці Дзяржстандарта, аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама.

*(Заканчэнне на стар.8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЭКСПЕРТ: НАВАТ ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ НЕ ЗМОГУЦЬ СПЫНІЦЬ ДЭВАЛЬВАЦЫЮ

***Упершыню за дзесяцігоддзе выбары не змогуць спыніць валютны крызіс. Уладам не застанецца нічога іншага, як пайсці на дэвальвацыю, лічыць дырэктар па даследаваннях Ліберальнага клуба Яўген Прэйгерман.***

Запэўненні Аляксандра Лукашэнкі, што на ўтрыманне курсу нацыянальнай валюты не будуць выкарыстоўвацца золатавалютныя рэзервы краіны, у народзе трактуюць як хуткае рэзкае абясцэньванне беларускага рубля. Крыніца “Беларускага партызана” у Нацыянальным банку паведаміў, што рашэнне аб дэвальвацыі беларускага рубля ўжо прынята. Вызначана і час зніжэння курсу - канец верасня-першая палова кастрычніка, і магчымы памер - 20-30%.




Паўтараецца сітуацыя двухгадовай даўнасці. Назапашваюцца праблемы з бягучым рахункам. Растуць запасы гатовай прадукцыі на складах. Назіраецца адмоўнае сальда гандлёвага балансу. Пачынаюць падаць банкаўскія стаўкі, а народ перакладае рублі ў замежную валюту як сродак зберажэння.

- Улічваючы, што абвастрыліся ўсе тыя ж праблемы, што і ў 2011 годзе, можна казаць пра наспеўшай дэвальвацыі, - распавёў інтэрнэт-газеце “Заўтра тваёй краіны” дырэктар па даследаваннях Ліберальнага клуба Яўген Прэйгерман.

У 2011 годзе праблему экспарту прадукцыі і адмоўнага знешнегандлёвага балансу ўдалося вырашыць з дапамогай двух дэвальвацый нацыянальнай валюты (у маі і верасні). Долар тады падскочыў з 3000 да 8500 рублёў.

Наведваючы «Мотавела» на мінулым тыдні, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што не збіраецца праводзіць дэвальвацыю, каб дагадзіць экспарцёрам.

- Відавочна, што ёсць праблемы з беларускім экспартам, зразумела, што дэвальвацыя прыводзіць да яго патаннення і аблягчэнні продажаў, - падкрэслівае Яўген Прэйгерман.

У канцэпцыю прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2014 год сярэднегадавы курс даляра закладзены на ўзроўні 9500 рублёў. Аналагічны паказчык на 2013 год запланаваны на ўзроўні 8950 рублёў.

Прагнозы незалежных эканамістаў адрозніваюцца неістотна. Эксперты даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту (ІПМ) чакаюць, што курс даляра да канца 2013 года складзе 9200 рублёў, да канца 2014 года - 9500 рублёў. Зрэшты, у сваім макраэканамічным прагнозе раўнавагу на фінансавых рынках яны называюць «дастаткова далікатным»: калі ўрад не зможа штогод прыцягваць па 2,5 млрд. даляраў знешніх пазык, то «абясцэньванне нацыянальнай валюты будзе куды як больш істотным».

Па прагнозах аналітыкаў, на новую рэзкую дэвальвацыю з улікам набліжэння прэзідэнцкіх выбараў 2015 ўлады наўрад ці вырашацца. Аднак Яўген Прэйгерман адзначае:

- У Беларусі ўпершыню за дзесяць гадоў парушаны палітыка-дзелавой цыкл. Калі палітыка прывязаная да выбараў, то чым бліжэй да іх, тым больш пачынаюць напампоўваць зарплату і зніжаць кошты. Але цяпер ужо працуе іншая логіка. Яна прывязаная да імгненнага латанне дзірак. І калі ўсё будзе працягвацца так і далей, то уладам не застанецца нічога іншага, як пайсці на дэвальвацыю.

Сярод аргументаў эксперта - праблемы з магчымым скарачэннем паставак нафты з Расіі ў Беларусь у чацвёртым квартале, перспектывы страціць экспарт малочнай і іншай прадукцыі і верагоднасць адсутнасці новых крэдытных рэсурсаў.

- Зразумела, што ўлады будуць спрабаваць адцягнуць гэты момант, - прагназуе Яўген Прэйгерман. - Але іншага выхаду з сітуацыі, якая склалася можа не быць....

***“Беларускі партызан”***

## ШКЛОВСКИЙ УБИЙЦА

7 сентября в 14-20 в д. Комаровка Шкловского района в своем доме пенсионер 1949 г.р., не судимый, после совместного распития спиртных напитков, на почве ревности нанес несколько ударов топором в область головы односельчанину 1968 г.р., который с телесными повреждениями был доставлен в УЗ «Шкловская ЦРБ», где в 15-30 скончался, а так же ударил топором свою сожительницу 1971 г.р., которая не госпитализировалась. 7 сентября Шкловским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. ст. 14 (Покушение на преступление), 139 ч. 2, п. 1 (Убийство) УК. Задержан в порядке ст. 108 УПК, сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

# МИНТОРГ: МАГАЗИНЫ ДОЛЖНЫ ПРОДАВАТЬ ТОВАРЫ В УПАКОВАННОМ ВИДЕ БЕЗ ВЗИМАНИЯ ЗА ЭТО ДОПОЛНИТЕЛЬНОЙ ПЛАТЫ

***Магазины в Беларуси не должны навязывать покупателям платную упаковку, сообщила 5 сентября на пресс-конференции заместитель министра торговли Ирина Наркевич, передает БЕЛТА.***

Замминистра отметила, что закон о защите прав потребителей не допускает, чтобы покупателю навязывали приобретение какого-то товара. «Когда продавец предлагает покупателю платный пакетик, мы это расцениваем как навязывание», — добавила Ирина Наркевич. По ее словам, товары должны быть проданы в упакованном виде без взимания за это дополнительной платы. Это не касается товара, который находится в упаковке производителя.

Ирина Наркевич констатировала, что действия магазинов в отношении этого вопроса будет контролировать созданная при Минторге Торговая инспекция.

По мнению замминистра, прогрессивным является применение бумажных пакетов. Такую практику используют в одном из крупных супермаркетов Минска.




Напомню уважаемым читателям, что в Белыничах навязывание платных пакетиков в качестве упаковки давно превратилось в норму в магазинах всех форм собственности. Причём зачастую наши славные работники торговли даже не спрашивают у покупателей, положить ли товар в платный пакетик или завернуть в бесплатную упаковку. Сейчас министерство торговли дало конкретные разъяснения, что товары должны быть проданы в упакованном виде без внимания за это дополнительной платы. И любой покупатель можпет пожаловаться на действия работников торгови, которые будут навязывать ему платную упаковку.

Посмотрим, как труженники торговли Белыничского района станут выполнять распоряжение родного министерства. Пока никаких изменений в белыничских магазинах не наблюдается, платные пакетики как навязывались, так и продолжают навязываться покупателям. Оно и понятно, ведь на такой "мелочёвке" магазины зарабатывают очень неплохие деньги.

***Ирина Беганкина***

## Сіманава ўзнагародзілі

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 жніўня бягучага года начальнік Бялыніцкага РАУС Юрый Сіманаў узнагароджаны медалём "За бездакорную службу". У праваахоўных органах Юрый Пятровіч служыць ужо 26 гадоў. Пасля вучобы ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі і Магілёўскай школе міліцы 13 гадоў ён працаваў у Бялыніцкім райаддзеле, затым 6 з паловай гадоў узначальваў Клімавіцкі РАУС. На пасадзе начальніка Бялыніцкага РАУС Юрый Сіманаў працуе ўжо больш за 2 гады.

## В ПМК-83 любят рыбу

Вишовские строители завершают возведение новейшего предприятия по выращиванию 300 тонн форели в год, расположенного в деревне Косичи Быховского района. Построены основной и вспомогательные объекты с бассейном закрытого типа. Дело за установкой необходимого оборудования для производства белорусской форели. Заказчик строительства нового предприятия – холдинг «Могилевводстрой», а вот его постоянным хозяином, скорее всего, станет Могилевский рыбокомплекс.

## ОЧЕНЬ ХОТЕЛОСЬ ВЫПИТЬ

5 сентября Белыничским районным отделом СК возбуждено уголовное дело по ст. 206 ч. 1 УК (Грабеж) в отношении жителя д. Эсьмоны Белыничского района 1978 г.р., неработающего, не судимого, который в конце августа 2013 года около 16-00 из магазина Белыничского РайПО в указанной деревне открыто похитил бутылку вина стоимостью 25 000 руб. Похищенное не изъято. Задержан в порядке ст. 108 УПК, сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ ПРАЗ ЭКАНОМІЮ ПАЛІВА. НА ПАПЕРЫ

*(Заканчэнне. Пач. на стар.5)*

Па заключэнні Міжнароднага энэргетычнага агенцтва, па дзяржстатыстыцы за мінулы год, па энэргаёмістасці ВУП Беларусь знаходзіцца амаль на ўзроўні Канады і Фінляндыі.

І энергаёмістасць ВУП, па заяўленнях разнастайных чыноўнікаў, працягвае змяншацца сямімільнымі крокамі.

Пры гэтым беларускае чынавенства нават не імкнецца задумацца над простымі арыфметычнымі разлікамі. Бо, па справаздачах аб мадэрнізацыі беларускай энергетычнай сістэмы і ўстаноўцы больш эфектыўнага абсталявання , справаздачах аб выкарыстанні мясцовых відаў паліва, іншых мерапрыемстваў па энэргазбераджэнні, і, ў выніку, – імклівага паніжэння энэргаёмістасці ВУП, у нашай краіне павінна было кожны год адбывацца паніжэнне выкарыстання ў якасці паліва імпартуемага з-за мяжы прыроднага газу. Але ж гэтага, нажаль, не адбываецца.

Падобная практыка з выкарыстаннем фінансавых сродкаў па праграме энэргазберажэння існуе ўжо шмат год.

І тут узнікае шэраг пытанняў.

Чаму КДК толькі зараз заўважыў падобныя факты?

Чаму разнастайныя сілавыя структуры РБ да гэтай пары не заўважалі разбазарвання фінансавых сродкаў у сферы энэргетыкі і камунальнагай гаспадаркі?...

Якім чынам, напрыклад, можна вытлумачыць фінансаванне прыватнай камерцыйнай арганізацы "Аэрола" па праграме распрацоўкі айчыннай ветраэнэргетычнай устаноўкі цягам 15 гадоў, на што патрачана каля паўмільёна долараў ЗША? А ветраўстаноўкі як не было, так і няма. Цікава, спадар Якабсон, хто ж з'яўляецца уладальнікам гэтай арганізацыі?

Анекдатычна выглядае і распрацоўка на пачатку 2000-х гадоў за кошт праграмы энэргазберажэння Бешанковічскім НВП катлоў з выкарыстаннем мясцовых відах паліва для кацельных ЖКГ, у якіх каэфіцыэнт карыснага дзеяння складае на практыцы ўсяго толькі 43%, у той час як згодна тэхнічных дадзеных ён павінен адпавядаць 83%.

У выніку эксплуатацыя катлоў падобнага тыпу на прадпрыемствах ЖКГ прывяла да таго, што сабекошт 1 Гкал. Цяпла, атрыманага ад спальвання драўніны, стаў вышэйшы за сабекошт цяпла на прыродным газе. А гэта ўсё ў сваю чаргу лягло на плечы грамадзян праз павелічэнне платы за ацяпленне кватэр.

Толькі на Дзяржаўную праграму мадэрнізацыі аб'ектаў энергетыкі з мэтай павышэння энергаэфектыўнасці і энергабяспекі краіны ў 2006-2010 гадах з розных крыніц фінансавання было выдзелена 5,5 млрд. долараў ЗША. Агромністыя сродкі былі патрачаныя, а праграма так і засталася не выкананая.

У той жа час шатлікія тысячы чыноўнікаў рознага ўзроўню атрымалі разнастайныя прэміі за "паспяховы" ўдзел у мерапрыемствах па энергазберажэнні. Толькі па Магілёўскай вобласці, напрыклад, за 2010 год падобныя прэміі былі выдадзены 19 тысячам чалавек (згодна інфармацыі паседжання аблвыканкама ад 04.03.2011 года), у той час, як многія аб'екты былі ўведзены у строй несвоечасова або з парушэннямі, а на некаторых праблемы існуюць да гэтай пары.

Пры захаванні ў краіне такіх тэндэнцыяў, не лепш выглядае перспектыва падобнай праграмы на перыяд 2011-2015 гады.

На Дзяржаўную праграму энэргазберажэння 2011-2015 г. плануецца выдзяленне фінансавых сродкаў у эквіваленце больш 8,6 млрд.долараў ЗША за кошт сродкаў прадпрыемстваў, крэдытаў, бюджэту і інвестыцый.

Урад Беларусі плануе да 2015 года знізіць энергаёмістасць ВУП на 29-32% у адносінах да 2010 года і на 50% - да 2005 г., і такім чынам "дагнаць і перагнаць" па гэтых паказчыках Канаду і Швецыю.




Штосьці падобнае мы ўжо назіралі за савецкім часа, калі кіраўніцтва краіны па шматлікіх паказчыках імкнулася дагнаць і перагнаць Амерыку.

Асноўная праблема сферы энергетыкі, як і ўсіх іншых галін беларускай экановікі, заключаецца ў адсутнасці сапраўдных рэформаў і адсутнасці падрыхтаваных спецыялістаў, здольных гэтыя рэформы здзейсніць.

Існуючая сістэма падбору кадраў па прынцыпу асабістай адданасці прывяла да таго, што большасць вышэйшага беларускага чынавенства не разумее сэнсу слова "мадэрнізацыя". Галоўнай задачай для сябе многія з іх лічаць своечасовае "асваенне" сродкаў выдзяляемых на гэтыя мэты, не задумваючыся аб эфектыўнасці іх укладання.

***Рыгор Кастусёў***

Сядзіба ГА «БНФ «Адраджэнне» ў Магілёве працуе па адрасе: вул. Ленінская, 29а (у двары перад кавярняй «Ізба») з панядзелка да пятніцы з 16 да 19 гадзін.
Сардэчна запрашаем!

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 11.09. 2013 г. у 18-00.